№8(17)
2000г.
жнівень

# ГОМАН БАРЫСАЎШЧЫНЫ

Грамадска - палітычная, асветніцкая газета

Выдаецца са жніўня 1996 г.

Кошт свабодны



## Унікальная школа

Сярэдняя школа №2, на першы погляд, звычайная школа, але гэта не так, бо такіх не тое што ў Барысаве, у Мінскай вобласці больш няма. Акрамя сярэдняй, яна дае музычкальную, харэаграфічную, тэатральную, мастацкую адукацыю.

У школу дзеці прыходзяць яшчэ нічога не ўмеючы, а ўжо праз кароткі час з дапамогай вопытных, таленавітых педагогаў набываюць прафесійныя навыкі, а неўзабаве іх можна ўбачыць на сцэнах школы, горада, на розных рэспубліканскіх конкурсах і міжнародных фестывалях.

Пазнаёмімся з некаторымі з іх. Вучаніца 7"А" класа Халімон Наташа (выкладчык Лабавікова А.М.) была адзначана заахвочвальнай граматай за паспяховае выступленне на міжнародным конкурсе выканаўцаў на народных інструментах у г. Санкт-Пецярбурзе. Сіліцкая Алёна стала лаўрэатам конкурса імя І.Жыновіча. Вучань 8 "А" класа Пацягевіч Віталь (выкладчык Сафончык Л.Л.) стаў лаўрэатам 3-й прэміі на абласным конкурсе выканаўцаў на духавых інструментах. Малюнак вучаніцы 8 "Г" класа Бабіч Вольгі (выкладчык Бабіч Л.В.) увайшоў у лік дзесяці лепшых малюнкаў рэспублікі і быў накіраваны для далейшага конкурса ў ЗША, дзе ён дэманструецца ў мастацкай галерэі ў Нью-Йорку. Вучань 7 "Г" класа Родзіч Павел (выкладчык Цвяткова В.У.) стаў дыпламантам міжнароднага конкурса дзіцячага малюнка ў Чэхіі, вучаніца 8 "Г" класа Рапацэвіч Вольга (выкладчык Русакова І.Р.) атрымала дыплом Мінскага абласнога конкурса "Мой родны кут". Вучань 7 "Г" класа Шахрай Аляксей (выкладчык Сянько А.Г.) заняў 1-е месца ў гарадскім конкурсе малюнка, прысвечаным 55-годдзю Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне.

*(працяг на стар. 6)*












Фота М.Лазара

## На новы век - новы погляд

Калектыў Барысаўскага шпалапрапітнага завода святкаваў у пачатку жніўня 100-гадовы юбілей свайго прадпрыемства. Урачыстасці адбыліся ў гарадскім Палацы культуры з запрашэннем на іх ветэранаў вытворчасці, ушанаваннем былых і цяперашніх перадавікоў.

Заснаванае 100 гадоў назад прадпрыемства па прапітцы шпалаў і на сённяшні дзень застаецца адзіным у рэспубліцы вытворцам такой прадукцыі. А гэта азначае, што шпаламі, якія прайшлі апрацоўку у барысаўскіх майстроў, выкладзены палотны ўсіх чыгуначных магістраляў рэспублікі.

У працяглай гісторыі завода найбольш значнай падзеяй з'яўляецца яго рэканструкцыя - расшырэнне вытворчасці, устаноўка новага абсталявання. Лепшыя традыцыі вырашылі прадоўжыць і ў дзень святкавання юбілею, забіўшы першую сваю ў фундамент будучага новага цэха. Вельмі важна тое, што з увядзеннем яго ў эксплуатацыю значна палепшацца ўмовы працы рабочых, на якасны узровень выйдзе экалогія вытворчасці, бо з тэхналагічнага працэсу прапіткі шпалаў будуць выключаны шкодныя антысептыкі.

***А.Турко***

## Лёгкія горада

Менавіта так вобразна можна назваць зялёную зону, акаляючую наш горад. Прыгарадныя лясы павінны мець пільную ўвагу з боку ўлад, бо яны дапамагаюць ачышчаць паветра, якое паспяхова атручваюць розныя хімічныя прадпрыемствы, якіх шмат у Барысаве.

У якім жа стане лясы, што прымыкаюць да горада і куды шмат хто з нас ходзіць па грыбы або проста адпачыць? Каб адказаць на гэта пытанне, дастаткова наведаць лясны масіў, што цягнецца ўздоўж чыгункі і шашы ад Печаў у бок Мінска. Уражанне жахлівае. Кучы смецця, друзу, металалому. У такім лесе не толькі грыбы збіраць - хадзіць сорамна. Здаецца, што тут усё атручана.

Рэдакцыя пацікавілася, хто павінен ахоўваць прыгарадны лес. Аказалася, што з красавіка 2000 года ўтворана Прыгараднае лясніцтва. Але сама сістэма аховы лясоў патрабуе перагляду. Падумайце, толькі на аднаго лясніка прыпадае 250-300 га, а ёсць нават больш за 500 га. Да таго ж, транспарту ляснікі часцей за ўсё не маюць. Вось і прыехалі. Пры такім раскладзе парадку не будзе.

Але самы недагледжаны лес (раён Печаў, Лядзішч, раён палігона) належыць вайсковаму лясніцтву, а вайскоўцы прывыклі гаспадарыць па-грабежніцку, не думаючы пра заўтрашні дзень.

Прыгарадныя лясы Барысава павінны мець больш увагі ад улад і грамадскасці.

***М. Пучыла***

## Прысмакі ці атрута?

Апошнім часам у нашым горадзе пачасціліся выпадкі атручвання кандытарскімі вырабамі польскай вытворчасці. Асабліва цяжка пераносяць гэтыя атручванні маленькія дзеці. Так шасцігадовы хлопчык, які з'еў некалькі цукерак "Сліва ў шакаладзе", знаходзіўся некалькі дзён у цяжкім стане з высокай тэмпературай. Бацькам і медыкам прыйшлося шмат пахваляваццa і папрацаваць, змагаючыся за яго жыццё. Бацька, маці і дзядзька гэтага хлапчука таксама частаваліся гэтымі цукеркамі, і ўсе яны адчувалі пагаршэнне здароўя. У другім выпадку атруцілася сям'я, у якой сыну 18 гадоў. Моцную рвоту і тэмпературу справакавала прыгожае і смачнае польскае пячэнне, якое было куплена на рынку ў старай частцы горада...

Што выклікае атручванні? Гэта пытанне для санітарных работнікаў, якія кантралююць якасць прадуктаў, што прадаюцца на рынках горада. А нашым чытачам мы можам толькі параіць больш пільна ўглядацца ў тэрміны захоўвання прадуктаў і не саромецца патрабаваць сэртыфікат якасці. Аднак і ў гэтым выпадку вас можа чакаць атрута: дзе і ў якіх умовах захоўваецца гэтая прадукцыя - невядома...

***І.Саевіч***

*Да 900 - годдзя Барысава*
**У распараджэнні рэдакцыі нашай газеты маюцца сенсацыйныя, невядомыя раней звесткі, якія датычацца заснавання ў 1102 годзе Барысава. Яны будуць асвешчаны ў адным з сёлетніх нумароў нашага выдання.**

# Зберажэм сквер

Наша газета ўжо пісала пра сквер па вуліцы Дзяржынскага. І цікава было даведацца, што раней гэта быў сапраўдны цэнтр адпачынку ў старым горадзе.

Сёння нас хвалюе далейшы лёс гэтага зялёнага куточка. Справа ў тым, што ён аказаўся без гаспадара. Раней за ім быў замацаваны завод "Агрэгатаў". Тады былі падсаджаны маладыя дрэўцы, завод даваў транспарт, а дзеці з СШ №1 наводзілі парадак. Але рашэннем выканкама № 24 1998 года сквер застаўся толькі за школаю. Школа - установа, якая не мае ні тэхнікі, ні сродкаў, каб зрабіць рэканструкцыю сквера. На запыт жа дырэктара школы аб далейшым лёсе сквера з ВА ЖКГ быў атрыманы адказ, што рэканструкцыя гэтай зялёнай зоны планавалася ў 1995 годзе.

Вось і маем. А старыя пасохлыя таполі пагражаюць лініям электраперадач і ... людзям.

Дык ці зберажэм сквер?

*М. Пучыла*

# Выхаване ў веры, надзеі, любові

Канкрэтныя практычныя крокі прадпрымаюцца ў нашым горадзе па адраджэнню традыцый спалучэння рэлігійнай, маральна-этычнай і рацыянальна-інфармацыйнай адукацыі. Летась у маі, а таксама сёлета працуюць курсы павышэння кваліфікацыі педагогаў па тэме "Асновы праваслаўнага выхавання". Яны сабралі дастатковую колькасць зацікаўленых слухачоў з боку настаўнікаў гуманітарнага цыклу, дашкольных работнікаў, намеснікаў дырэктараў па выхаваўчай рабоце, сацыяльных педагогаў, якія працуюць у навучальных установах Барысава. Арганізаваны курсы пры Барысаўскім філіяле Мінскага абласнога інстытута павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кіруючых работнікаў і супрацоўнікаў адукацыі.

Аўтарытэт і прафесіяналізм выкладчыкаў не выклікаюць сумнення. Гэта спецыялісты Беларускай акадэміі паслядыпломнай адукацыі, Мінскага епархіяльнага ўпраўлення, Мінскай школы катэхізатараў, святары.

Практычнае прымяненне ведаў, набытых педагогамі на курсах, знойдзецца ў наступным навучальным годзе. У школах горада будуць арганізоўвацца факультатыўныя курсы па вывучэнню Біблії і асноваў хрысціянскай маралі. Тым больш, што ў горадзе ёсць і канкрэтны вопыт выкарыстання вопыту і аўтарытэту праваслаўнай рэлігіі ў выхаванні. У сярэдняй школе №24 па жаданню вучняў і іх бацькоў такія факультатывы паспяхова працуюць ужо некалькі год, добра спраўляючыся з задачай выхавання ў дзецях унутранай чысціні і цнатлівасці, без якіх чалавеку немагчыма захаваць сапраўдную чалавечую годнасць.

*А.Турко*

# Экзотыка ў еўрапейскім інтэр'еры

У мінулыя савецкія часы афіцыйна дазволена было рэкламаваць сваю дзейнасць толькі "Аэрафлоту" і ашчадным банкам. Помніцца нам, што "Аэрафлот" са сваіх блёклых плакатаў запрашаў лятаць яго самалётамі, а банк з крыху большай доляй фантазії заклікаў грамадзян захоўваць грошы ў ашчаднай касе.

Цяпер пра аэрафлот і гаворкі няма. А вось фантастычна развітая ў апошнія часы банкаўская сістэма пра сваё савецкае басаногае дзяцінства і ўспамінаць забылася. Ці то дзяржаўны, ці то прыватны банк у рэкламным спісе паслуг прапануе чалавеку з грашыма



амаль што цэлы лад жыцця.

Значнае месца ў дзейнасці сучасных банкаў займаюць валютныя аперацыі. І менавіта гэтая акалічнасць прыбліжае іх, на першы погляд, да еўрапейскіх і сусветных стандартаў. Але ж пасля першага погляду заўсёды прыходзіць другі, больш спрактыкаваны, які і дапамагае зразумець, наколькі далёка знаходзімся мы ад усялякіх стандартаў.

Амерыканец ці еўрапеец, як вядома, менш за ўсё мае спраў з наяўнымі грашыма. Пластыкавыя карткі, банкаўскія чэкі - гэта іхні даўно прызнаны лад жыцця. Тым больш, што ва ўмовах глыбока інтэграваных банкаўскіх сістэм розных краін у любым кутку зямнога шара чалавек спаўна можа абысціся без тоўстага кашалька з наяўнасцю.

А што ж у Беларусі? Адзін заходні госць паспрабаваў атрымаць наяўную валюту па чэку сусветна вядомага і разгалінаванага па ўсіх кантынентах банка "American Express" у барысаўскім аддзяленні "Знешэканомбанка". Аднак барысаўскія банкіры развялі рукамі: аказалася, што прамога дагавору на супрацоўніцтва з "American Express" не існуе, а таму чэк давядзецца пераслаць цераз акіян і толькі тады, калі ён вернецца назад адпаведным чынам апрацаваны ( на гэта спатрэбіцца не менш трох месяцаў), выдаць па ім грошы.

Замежны госць наколькі здзівіўся, настолькі і спужаўся, бо трохмесячнае чаканне ўласных даляраў нязай сабе і ў гасціннай Беларусі яму не "ўсміхалася". Заставалася спадзявацца на вырашэнне праблемы з дапамогай сталічных банкаў. Аднак пасля званка ў асацыяцыю беларускіх банкаў з мэтай атрымаць неабходную інфармацыю здзіўляўся ўжо не толькі амерыканец. Аказалася, што Асацыяцыя такой інфармацыяй проста не валодае, бо, маўляў, кожны банк праводзіць уласную палітыку. Пасля гэтага не заставалася нічога, як тэлефанаваць па парадку ва ўсе сталічныя банкі. Станоўча адказалі на пытанне толькі ў адным з іх - "Прыорбанку",- у адным з філіялаў якога і выдалі па злашчаснаму чэку даляры, адлічыўшы ў карысць установы салідную суму.

Такім чынам, гісторыя з чэкам, дзякуючы



растаропнаму "Прыорбанку", атрымала добрае заканчэнне. Але далікатны замежны госць пазней за кубачкам кавы ўсё ж загаварыў аб тым, што давялося яму нядаўна бываць у Цэнтральнай Афрыцы і бачыць там шмат дзівосаў, ды толькі прыгода з банкаўскім чэкам у Беларусі куды больш экзатычная.

*А.Турко*

# Вакзал - твар горада

Першае, што бачаць большасць з тых, хто прыязджае ў любы горад - гэта будынак вакзала. Па яму мяркуюць аб горадзе. Без перабольшвання можна сказаць, што вакзал - гэта твар горада. Які ж ён быў раней у Барысаве?

Самы стары - двухпавярховы драў ляны будынак вакзала быў пабудаваны ў 1871 годзе адначасова з чыгункай. Праіснаваў ён да пачатку XX стагоддзя. Яму на змену ў 1914 годзе быў узведзены цагляны двухпавярховы будынак, які існуе і зараз. Першапачаткова на яго першым паверсе размяшчаліся ўсе службова - тэхнічныя памяшканні. На другім паверсе жылі работнікі станцыі і фінансава - камерцыйны рэвізор. Да муравaнага будынка быў прыбудаваны аднапавярховы драўляны, у якім мясціўся рэстаран. Гэты будынак да нашага часу не захаваўся.

*А.Барэвіч*

# "Удасканаленне" па-барысаўску

Параўнайце гэтыя здымкі. Гэта адзін і той жа будынак, былы дом барысаўскага пракурора ў дарэвалюцыйны час. На адным амаль захаваны першапачатковы выгляд дома, а на другім ён ужо пасля так званага "рамонту" і "ўдасканалення". Адразу кідаецца ў вочы знікненне фігурнай арачнай рамы над уваходам і замена на прымітыўную. Не хапіла мудрасці і адказнасці цяперашнім гаспадарам будынка (тут месціцца 1-ая паліклінніка г.Барысава), каб захаваць такі важны элемент фасада помніка горадабудаўніцтва. Не хапіла прафесійнага гонару і таму майстру, які выканаў новую раму. Атрымалася як заўсёды, абы працей. Безгустоўна выкананы і прыбудаваны навес, а хіба нельга было параіцца са спецыялістамі? У Барысаве дастаткова таленавітых архітэктараў і мастакоў, чаму не звярнуліся да іх? Застаецца толькі запытацца ў кіраўніцтва горада: хто адкажа за такое "ўдасканаленне"?

*Л.Гадун*







**① Фігурная арачная рама над уваходам**

**② Стан будынка да рамонту**

**③ Сучасны выгляд**

# Алкагалізм - гэта хвароба

У сучасным грамадстве асноўнымі з'яўляюцца так называемыя сацыяльныя праблемы. Першая сярод іх - праблема злоўжывання алкаголем і выцякаючы з гэтага алкагалізм.

Алкагалізм - гэта хвароба. Значыць яе можна лячыць (дакладней гаворачы, спрабаваць лячыць). Калі пры прастудзе мы звяртаемся да тэрапеўта, з траўмай ідзём да траўматолага, то ў нашым выпадку трэба звяртацца да ўрача-нарколага. На вялікі жаль, у Барысаве і раёне працуе ўсяго 2 урачы-нарколагі ў псіханеўралагічным дыспансеры. Відавочна, што ім не справіцца з узрастаючым у геаметрычнай прапорцыі кожны год патокам пацыентаў, якія хочуць пазбавіцца ад бяды. Пры гэтым трэба ўлічваць, што колькасць людзей, якія не ўсведамляюць, што трапілі ў бяду, яшчэ большая.

Вельмі горка канстатаваць той факт, што ўзрост падобных людзей - 20-40 гадоў, а гэта, так бы мовіць, генафонд нацыі, яе будучыня.

На базе дыспансера можна прайсці амбулаторнае лячэнне, якое дапамажа зняць алкагольны крызіс. На жаль, не ўсе, хто прыходзіць сюды за дапамогай, пасапраўднаму "трымаюцца" і не ўжываюць спіртное. Аб гэтым гаворыць статыстыка. 90% пацыентаў на працягу 3-х гадоў паўторна звяртаюцца за дапамогай. Вядома, для больш эфектыўнага лячэння неабходны стацыянар, але ў Барысаве, дз і ў Мінскай вобласці, няма ложкаў для такіх пацыентаў. Адзіны стацыянар - у Навінках. Але туды трапляюць хворыя толькі з цяжкімі наступствамі ўжывання алкаголю, якія нельга зняць пры амбулаторным лячэнні.

Найлепшы спосаб пазбавіцца праблем - не пачынаць піць, але калі тое ўсё ж адбылося, то трэба як мага хутчэй зразумець, што гэта замінае вам у жыцці і пераканаць сябе цвёрда "завязаць". Калі ж у вас на гэтай прычыне ўжо ўзніклі праблемы ў сям'і, на рабоце, але вы адчуваеце, што не можаце самастойна справіцца з бядой, тэрмінова звярніцеся ў псіханеўралагічны дыспансер (вул. Чырвонасцяжная,15). І калі вы па-сапраўднаму хочаце пазбавіцца ад гэтай страшнай навалачы, то вы сумееце гэта зрабіць.

Сусвет больш яркі і прыгожы, калі на яго глядзець не праз бутэльку, а ясным цвярозым позіркам. Дык будзьце здаровы!

*М.Лазар*

**Колькасць тых, хто дабраахвотна звярнуўся за дапамогай у барысаўскі псіханеўралагічны дыспансэр па поваду алкагалізму**



# Тут быў маёнтак

На Барысаўшчыне ў мінулыя часы была вялікая колькасць маёнткаў. Шмат якія з іх мелі багатую гісторыю, адметныя архітэктурныя і планіровачныя рысы. Для тутэйшых маёнткаў характэрна была наяўнасць у іх паркаў з прыгожымі экзатычнымі раслінамі.

Адзін з тутэйшых маёнткаў - Казімірава - знаходзіўся на паўднёвы ўсход ад Карсакавіч. Належыў ён пану Свяніцкаму. Тут меўся вялікі аднапавярховы драўляны палац, шмат гаспадарчых пабудоў. Апошнія былі выкананы з часаных каменняў і дрэва. На тэрыторыі маёнтка была вялікая сажалка, у якой яшчэ да апошняй вайны было шмат рыбы. Вельмі адметным быў парк. Асобныя экзатычныя расліны ў ім захаваліся да нашага часу.

З маёнтка да Карсакавіч вяла алея. Яшчэ адна дарога была зроблена да суседняга маёнтка ў Скупліна. Яна мела насып, абапал якога былі рвы. Па дарозе меліся два масты...


Рэшткі аднаго з будынкаў


Алея ўздоўж дарогі з маёнтка на Карсакавічы

Можна яшчэ доўга распавядаць пра былое Казімірава. Нават зараз, праз столькі год, шмат хто ўзгадвае добрым словам тое, што было пры Свяніцкіх.

Пасля падзеяў 1918 года ў маёнтку была ўтворана камуна. Ён хутка стаў занепадаць. Пазней, падчас апошняй вайны, былі знішчаны яго будынкі. Ад іх засталіся толькі падмуркі. Але і яны ўражваюць. Сажалка ўжо даўно зарасла. У вельмі дрэнным стане знаходзіцца парк. Экзатычных раслін у ім з кожным годам становіцца ўсё меней і меней. Прытым справа тут не толькі ў іх узросце, а і ў адносінах да іх людзей. Даўно парасла і не выкарыстоўваецца дарога на Скупліна. Замест былой прыгажосці і росквіту-занядбанасць і безгаспадарчасць.

Безумоўна, знішчаць прасцей, чым утвараць. Але ці не час спыніцца?

*М.Мацельскі*

## Чарневічы - Чэрнеўка

Пэўна, шмат хто звярнуў увагу на тое, што на поўдні Барысаўскага раёна недалёка адна ад адной знаходзяцца дзве вёскі з блізкімі па гучанню назвамі - Чарневічы і Чэрнеўка. Ці з'яўляецца выпадковым такое падабенства?

Адказ на гэтае пытанне можна знайсці ў дакументах XVI стагоддзя. Справа ў тым, што праз гэтыя мясціны ў старыя часы праходзіў шлях з Менска ў Друцк. Дарэчы, гэты шлях з'яўляўся адным з найстаражытных у нашым краі. Бліжэйшым да Бярэзіны населеным пунктам на гэтым шляху з'яўляліся Чарневічы. Таму пераправу праз раку называлі па назве вёскі - Чэрневым бродам. З цягам часу на месцы пераправы ўзнікла пасяленне. Яно атрымала назву ад назвы броду - Чэрнеўка.

Шлях з Менска ў Друцк не існуе ўжо некалькі стагоддзяў (аднак мост на месцы перасячэння Бярэзіны існаваў яшчэ да апошняй вайны). Але ў спадчыну ад яго нам засталіся падобныя назвы суседніх вёсак - Чарневічы і Чэрнеўка.

*А.Барэвіч*

## Напамін пра Беларусь

У Германіі выходзіць газета на нямецкай мове, цалкам прысвечаная Беларусі. "Belarus-News" - так называецца гэта выданне - выходзіць у Дортмундзе і прызначаецца перш за ўсё студэнтам гуманітарных факультэтаў вышэйшых навучальных устаноў, але на яе за 24 маркі ў год можа падпісацца кожны жадаючы. Газета ўяўляе сабой сціплае неілюстраванае выданне фармату А-4, дзе на 28 старонках у інфармацыйным і аналітычным жанрах расказваецца аб падзеях у розных сферах жыцця нашай краіны за тры мінулыя месяцы. Змест складаюць раздзелы ўнутранай і знешняй палітыкі, эканомікі і вытворчасці, грамадскіх сувязяў, навукі, культуры і спорту. Па форме і зместу выданне з'яўляецца даволі падрабязным дайджэстам беларускай (пераважна недзяржаўнай) прэсы.

*А.Турко*

## Вёска Хрост

Вёска Хрост знаходзіцца ў 26 кіламетрах ад горада і 1,5 км ад дарогі Барысаў - Халопенічы. Такіх вёсак на Барысаўшчыне даволі многа. Вялікая бяды ў тым, што яна знаходзіцца ў далечыні ад дарогі, няма. Вядома, зімой у яе практычна не заехаць, хлеб можна купіць толькі 1 раз на тыдзень (як правіла не першай свежасці і на 15-20 рублёў даражэй, чым у горадзе). Але гэта дробязі жыцця ў параўнанні з прыгажосцю і багаццем прыроды: лесу, палёў, ракі Схі... Сябе я памятаю ў гэтай вёсцы з 7-8 гадоў. Мы з дзедам выходзілі з хаты і, зрабіўшы літаральна некалькі крокаў, аказваліся ў чароўным сосновым лесе, з мяккім мхом пад нагамі, ягадамі чарнікі, якія раслі на ўзлеску. А грыбы! Іх было столькі, што ніхто і ніколі не хадзіў у лес далей за 1 км. Лісічкі мы збіралі адразу на дарозе, зарослай травой і мохам. Ну а баравічкі раслі чуць далей. Вы прачытаеце гэта і падумаеце, а ці не казка гэта. Не. Але было ўсё гэта недзе 12-13 гадоў таму. Сёння ад усяго гэтага засталася вёска з яе адвечнай праблемай набыцця хлеба. І новай праблемай: АП №3 настойліва дабіваецца таго, каб людзям усё цяжэй было дабірацца ў вёску. Хаця гэта можа і да лепшага. Чаму? Аб гэтым ніжэй.

У вёсках у сілу пэўных прычын алкагалізацыя жыхароў пачынаецца з самых ранніх гадоў. І калі малады чалавек, падрыхтаваны паўнацэнна працаваць, ён не можа бачыць свет без такой прызмы, як гранёная шклянка, у якую наліта блакітнаватая спірта-ўтрымліваючая вадкасць з ярка выражаным пахам (назва яе, я ўпэўнены, вам вядома). Работы ў вёсцы многа: апрацоўка зямлі, нарыхтоўка дроў, дагляд жывёлы і многае другое. У вёсцы Хрост можна яшчэ даволі прыстойна зарабляць на дрэваапрацоўчым прадпрыемстве, якое знаходзіцца ў 2 км ад яе.

Але для чалавека, які не здольны уявіць сябе без бутэлькі, гэта вельмі клопатна і цяжка. І таму, калі ў горадзе адкрыліся першыя пункты прыёму дароў лесу, для такіх людзей настала новае жыццё. Схадзіў у лес на 2-3 гадзіны - і гуляй тыдзень, а то і больш. А на прадпрыемстве ці ў калгасе за такі час нічога не заробіш. І што тут пачалося! Лес з кожным годам стаў спусташацца, таму што ўсе грыбы выдзіраюцца з карэннем, чарніка збіраецца з лістамі (так хучэй).

Да гэтых рабацяг дабавіліся дачнікі, якія вечна некуды спяшаюцца, бо ім трэба паспець агарод прапалоць, паліць і дамоў прывесці грыбкоў-ягадкаў (ды не кілаграм які, а вядро-другое). І пачалі людзі ўсё далей і далей паглыбляцца ў лес, выносячы яго багацці і па-варварску знішчаючы іх. У гэтым годзе да нядаўняга часу мясцовым алкаголікам не шанцавала: лета халоднае і грыбоў не было. Але прайшлі дружныя дажджы, і "рабацягі" пацягнуліся ў лес. Бачылі б вы тыя лісічкі, якіх яны накалупалі, памерам 2-3 см, з нефармаванымі шляпкамі. Радасць у "рабацяг" хутка змянілася расчараваннем - гэтыя, з дазволу сказаць грыбы ў іх не прынялі. А пакольні арганізм патрабаваў новай порцыі алкаголю, хадзілі яны тым вечарам і прадавалі 2 кг лісічак за бутлю самагону.

Я вельмі баюся, што у маіх дзяцей цёплых успамінаў аб гэтым чароўным, багатым лесе не захаваецца, а застанецца ў памяці толькі лес, у якім не прайсці міма разбітых бутэлек, кавалкаў плёнкі, іржавых вёдраў і каструль, лес, дзе цэлымі плантацыямі растуць бледныя паганкі і мухаморы і, вядома ж, кусцікі чарніц, на якіх 7 пажухлых лісткоў і ягадка памерам з вушка іголкі. А ў вёсцы вечна п'яныя, невядома за якія грошы. У іх няма сваіх дзяцей і, хутчэй за ўсё, не будзе. І хто, скажыце, паклапоціцца аб былой красе і багацці нашага лесу.

*М.Лазар*

## Касьба і жніво

У канцы чэрвеня пачыналася ў сялян самая гарачая пара. Ад "Пятра" на лугах ужо ляжалі зялёныя пракосы. А касьба абавязкова павінна была закончыцца да свята Ільі. У народзе так гаварылі: "Прыдзе Ільля - наробіць гніління". Пагодныя дні - неабходная ўмова для касьбы, таму касцы звычайна спявалі:

Касцы косяць,
Бога просяць:
- Ой, дай, Божа, пагоданьку
Ды на нашу работаньку.

У некаторых месцах Гродзеншчыны існаваў такі звычай. Калі з'яўляўся на луг гаспадар, які наняў касцоў, яго звязвалі вяроўкай, звітай з травы. З гэтага жартоўнага палону ён павінен быў выкупіцца грашыма.

А жніво на Беларусі было, вядома, яшчэ больш важнай падзеяй. Гэта пацвярджаюць спецыяльныя абрады: пакрыванне поля, зажынкі і дажынкі. Кожны селянін імкнуўся як мага хутчэй пачаць жніво, каб жыта не перапсела. Жалі звычайна жанчыны і дзяўчаты, а таму і ў жніўных абрадах удзельнічалі выключна яны адны.

Раніцай, да ўсходу сонца, ішла на поле маладзіца і ў прысутнасці некалькіх дзяўчат нажынала невялікі снапок жыта і, абвіўшы яго ручніком або полкай новага палатна, падкідала, прыгаворваючы:

Пакрыла ніўку
На добрую спажыўку;
Парадзі, Божа,
Наша збожжа!..

Потым маладзіца і дзяўчаты ішлі дамоў ці да гаспадара, чыё поле пакрывалі. Пры ўваходзе ў хату спявалі, аддавалі снапок гаспадыні. Тая адорвала іх грашыма. Затым падыходзілі з паклонам да гаспадара. Гаспадар частаваў жнеек і запрашаў на зажынкі. Тым і скончвалася пакрыванне поля.

Праз два дні рабілі зажынкі. Вечарам, на заходзе сонца, гаспадарова дачка разам з сяброўкамі, спяваючы, адпраўлялася на поле. Гаспадыня ім давала з сабой ячэйню, сыр і гарэлку. На полі дзяўчаты сілкаваліся, зразалі па каласку, звязвалі невялікі снапок-гаспадарок, акраплялі яго гарэлкай і, спяваючы, адпраўляліся дамоў.

Увайшоўшы ў хату, гаспадарова дачка з паклонам падавала снапок-гаспадарок бацьку. Той, падкінуўшы снапок, ставіў яго на покуці пад абразы. Пад снапок клаў чатыры медныя манеты і кланяўся, затым гаспадары частавалі дзяўчат і запрашалі іх на дажынкі. Увесь абрад зажынак суправаджаўся песнямі.

Цікава праходзілі дажынкі. На Віцебшчыне, напрыклад, заканчваючы жытняе жніво, адна частка жней, зрэзаўшы жменю жытніх сцяблін з каласамі, пачынала звіваць з іх вянок. У той час астатнія садзіліся на зямлю і спявалі. Першая з пявуньняў прысядала на кукішкі перад знарок пакінутым на полі кустом аржаных сцяблін з каласамі, яго палола, затым сцяблі́ны звязвала ля самых калоссяў, што і звалася "барадой". У сярэдзіну куста клалі акраец хлеба і соль. Усё гэта дзеянне называлася "завіваннем барады".

Затым жнейкі з песнямі адпраўляліся дамоў. Калі на шляху ім траплялся добра знаёмы чалавек, то зачынальніца надзявала яму вянок, а жнеі вакол "палонніка" спявалі песні да таго часу, пакуль ён не даваў выкуп-грошы ці якую-небудзь рэч.

Жнеек дома сустракаў гаспадар. Дзяўчаты надзявалі гаспадару на галаву вянок, а гаспадар запрашаў іх у хату, дзе яшчэ ў сенях іх вітала гаспадыня, трымаючы ў руках гарэлку, хлеб, соль, сыр. Калі гатова была вячэра, то адразу садзіліся за стол. І не толькі жнеі, але ўсе, хто ў хаце прысутнічаў.

На дажынкі пяклі бліны і да іх падавалі масла, мёд. Акрамя таго, варылі вельмі густую кашу, каб і пасевы на другое лета былі такія ж густыя. Таксама смажылі або варылі парася, пяклі ячэйню і частавалі гарэлкаю.

*Паводле В. Раманцэвіч*

# Літаратурная карта

*Шчодрая на таленты наша Барысаўшчына. Здаўна на ёй жылі і жывуць працаўнікі палёў, якія вырошчваюць багатыя ўраджаі, рабочыя заводаў, фабрык, якія ствараюць прадукцыю, што карыстаецца попытам далёка за межамі горада. Жывуць у нас таленавітыя настаўнікі, урачы, выдатныя спартсмены, гатовыя ў любы момант бараніць наш край прафесіянальна падрыхтаваныя ваенныя... Многія нашы землякі пакінулі яркі след у навуцы, культуры. Аб многіх мы ўжо пісалі і будзем яшчэ пісаць.*

*У гэтым нумары мы хацелі б спыніць увагу нашых чытачоў на тых таленавітых людзях, што звязалі свой лёс з мастацкай літаратурай, і падаем скупы фактычны матэрыял аб іх у форме своеасаблівай літаратурнай карты. Робім гэта з мэтай сістэматызацыі матэрыялу, які да гэтага давалі ў папярэдніх нумарах газеты і які хочацца падаць арыгінальна, наглядна.*

*Цвяроза ўсведамляем, што "Літаратурная карта Барысаўшчыны" змяшчае звесткі не аб усіх таленавітых нашых земляках і тых, каму наш край даў гасцінны прытулак. Рады будзем выдаць праз пэўны час падобную карту ў значна дапоўненым выглядзе.*

**І.Белы**




*Паэты і пісьменнікі, што нарадзіліся на Барысаўшчыне*

# Барысаўшчыны



***Мікола Аляхновіч*** (1903 - 1959) нарадзіўся ў сям'і служачага, вучыўся ў Барысаўскай мужчынскай гімназіі, выкладаў беларускую мову і літаратуру ў 3-й працоўнай школе і на агульнаадукацыйных курсах. Арганізаваў літаратурны рух на Барысаўшчыне. Быў выбран кіраўніком Барысаўскай філіі "Маладняка". Як крытык даследаваў творчасць П.Труса, А.Александровіча, Я.Коласа, Я.Скрыгана, М.Багдановіча, М.Горкага і др. У 1936 годзе быў беспадстаўна арыштаваны. Пакаранне адбываў да 1957 года. Апошнія гады жыў у Ленінградзе.

*

***Васіль Барысенка*** (1904 - 1984) нарадзіўся ў сям'і чыгуначніка. У Барысаве скончыў школу, педагагічны тэхнікум, працаваў чорнарабочым на чыгунцы. Акадэмік АН БССР, доктар філалагічных навук, член СП СССР з 1937 года. Узначальваў інстытут літаратуры імя Я.Купалы АН БССР у 1946-1973 гадах. Даследаваў творчасць Ф.Багушэвіча, Я.Купалы, Я.Коласа, В.Дуніна-Марцынкевіча, З.Бядулі, Т.Шаўчэнкі і др. Сааўтар падручніка "Беларуская літаратура" для 8 класа і хрэстаматыі "Родная літаратура" для 10 класа.

*

***Вера Буланда*** (1955) нарадзілася ў Маскве, але сапраўднай радзімай, дзе яна сталела як чалавек, нарадзілася як паэт, стала вёска Мсціж, без якой яна, па яе прызнанню, як і без родных людзей, без кахання, без роднай мовы, не можа жыць. У сваёй паэзіі Буланда вельмі шчырая, пачуццёвая. Гэтыя якасці творчасці паэткі высока цаніў народны паэт Беларусі Пімен Панчанка. Цяпер Вера Аляксандраўна жыве і працуе намеснікам дырэктара школы па выхаваўчай рабоце ў Навасёлках (Глівінскіх).

*

***Галіна Васюкова*** (1927) нарадзілася ў сям'і рабочага. У час другой сусветнай вайны зведала нямецкі палон, прымала ўдзел у барацьбе з фашыстамі ў атрадзе Супраціўлення. Мае дзве адукацыі: музычную і літаратурную. Піша па-руску. У цэнтры яе твораў праблемы дзяцей і моладзі.

*

***Платон Галавач*** (1903 - 1937) працаваў у пачатку 20-х гадоў інструктарам Барысаўскага павятовага камітэта камсамола. Менавіта ў гэты час ён распачынае літаратурную дзейнасць. За сваё кароткае жыццё (пражыў усяго 34 гады) ён паспеў пакінуць яркі, самабытны след у беларускай літаратуры. Яго пяру належаць некалькі зборнікаў апавяданняў, аповесць "Сполах на загонах", раман "Праз гады". Выдатны пісьменнік, Платон Галавач многа энергіі і часу аддаваў грамадскай і палітычнай рабоце. У розныя гады ён быў рэдактарам газеты "Чырвоная змена", часопісаў "Маладосць", "Полымя". Займаў пасады першага сакратара ЦК ЛКСМБ, намесніка наркома асветы БССР. Расстраляны ў 1937 годзе на падставе ілжывых абвінавачванняў.

*

***Васіль Гігевіч*** (1947) нарадзіўся ў мнагадзетнай сялянскай сям'і. Пасля заканчэння мясцовай дзесяцігодкі паступіў на фізічны факультэт Харкаўскага універсітэта. Настойліва займаўся гуманітарнай самаадукацыяй. Працаваў настаўнікам, журналістам. З 1970 года - на Барысаўскім шклозаводзе. З 1981 года працуе ў часопісе "Маладосць". Сілы ў літаратуры спрабуе падчас вучобы ў Харкаве. Першы апублікаваны твор на беларускай мове - апавяданне "Калодзеж" (1972г.). Яго творам уласцівы глыбокі філасофскі роздум. Вельмі многа піша пра гарадское жыццё.

*

***Генрых Далідовіч*** (1946) нарадзіўся на Стаўбцоўшчыне, на радзіме славутага Коласа, пад уплывам творчасці каторага стаў пісаць сам. З Барысаўшчынай лёс пісьменніка быў звязаны шэсць гадоў. У 1968-73 гадах ён працаваў у Шабунькаўскай базавай школе настаўнікам, а потым завучам. Найбольшую цікавасць для жыхароў Барысаўшчыны ўяўляе цыкл аповесцяў пра сялянскую школу ("Усё яшчэ наперадзе", "Завуч", "Міланькі", "Дырэктар"), бо для іх напісання былі скарыстаны жыццёвы вопыт пісьменніка, набыты падчас работы на Барысаўшчыне. Генрых Далідовіч - лаўрэат Літаратурнай прэміі СП Беларусі імя Івана Мележа, з 1981 - галоўны рэдактар часопіса "Маладосць".

*

***Ляо Дзэ (Іван Маразовіч)*** часта выступаў з публіцыстычнымі артыкуламі і вершамі ў даваенным літоўскім друку. На жаль, захавалася вельмі мала біяграфічных звестак і твораў нашага земляка. У цяперашні час газета "ГБ" прыкладае намаганні, каб знайсці новыя даныя пра жыццё і творчасць Івана Маразовіча.

*

***Сяргей Законнікаў*** (1946) на Барысаўшчыне жыў нядоўга - працаваў у Клетнаўскай сярэдняй школе ў 1969-70 навучальным годзе. Пісаць стаў яшчэ ў студэнцкія гады, а на Барысаўшчыне яго талент яшчэ больш узмужнеў. На сённяшні дзень С. Законнікаў - адзін з найбольш вядомых беларускіх паэтаў, публіцыстаў. З'яўляецца лаўрэатам Літаратурнай прэміі СП Беларусі імя А.Куляшова, лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь. З 1986 года - галоўны рэдактар часопіса "Полымя".

*

***Яўген Замерфельд*** (1912 - 1980) нарадзіўся на Магілёўшчыне, але з маленства да апошніх дзён жыў і працаваў у Барысаве. Вучыўся ў Барысаўскім педвучылішчы, Мінскім педінстытуце. У час вайны быў падпольшчыкам. Выкладаў беларускую мову і літаратуру ў Барысаўскім педвучылішчы і школе-інтэрнаце. У літаратуры з 1929 года. Пісаў вершы, апавяданні, рэцэнзіі, артыкулы. Выдаў некалькі метадычных дапаможнікаў для сярэдняй школы (у сааўтарстве з В.Самцэвічам). Аказаў уплыў на маладых паэтаў Алеся Ставера, Васіля Зуёнка.

***Сяргей Знаёмы (Сяргей Змітравіч Клопаў - 1905 -1944)*** у Барысаў прыязджае ў падлеткавым узросце. Працуе на запалкавай фабрыцы "Чырвоная Бярэзіна", рэдагуе шматтыражку "Чырвоны Бярэзінец". Пасля заканчэння Мінскага педінстытута выкладае рускую мову і літаратуру ў СШ №11. У 1936 годзе арыштаваны, у 1937 годзе, хутчэй за ўсё, расстраляны.

*

***Тацццяна Зіненка*** (1960) пасля вучобы ў Зачысценскай школе і Беларускім педагагічным інстытуце працавала выкладчыцай беларускай мовы і літаратуры ў роднай вёсцы і школах горада Барысава. Пісаць пачала ў сярэдзіне 70-х гадоў. Друкавалася ў "Камуністычнай працы" і многіх рэспубліканскіх газетах і часопісах. Першыя вершы таленавітай паэткі - пра сваіх землякоў (у тым ліку пра касманаўта Уладзіміра Кавалёнка).

*

***Васіль Зуёнак*** (1935) у 1950-54 гадах вучыўся ў Барысаўскім педвучылішчы, якое закончыў з дыпломам выдатніка. Пад уплывам выкладчыка беларускай мовы і літаратуры Замерфельда Я.М. стаў займацца літаратурнай творчасцю. Першыя вершы апублікаваў у барысаўскай раённай газеце "Бальшавіцкая трыбуна". Цяпер В. Зуёнак - віднейшы беларускі паэт.

*

***Гірш Камянецкі*** (1895 - 1957) працаваў у Барысаве цырульнікам у 1916-1919, 1921-1928 гадах. Тут ён стаў займацца літаратурнай творчасцю (друкавацца стаў з 1924 года). Пісаў на ідыш. Выдаў зборнікі "Простай дарогай", "Заказ на маладосць", "Мацней за жалеза", "Вершы". У перакладзе на рускую мову ў 1973 годзе выйшаў зборнік "Дороже хлеба".

*

***Міхась Клімковіч*** (1899 - 1554) нарадзіўся ў сялянскай сям'і. У 1915 годзе скончыў вышэйшае чатырохкласнае вучылішча ў Барысаве і пасля здачы экстэрнам экзаменаў працаваў на Барысаўшчыне. Служыў у Чырвонай Арміі. Многія гады працаваў у Саюзе пісьменнікаў на розных пасадах (у1934-1939 гадах узначальваў праўленне Саюза). Друкаваўся з 1928 года. Пісаў вершы, паэмы, апавяданні, артыкулы, пераклады. Аўтар тэксту Гімна БССР.

*

***Янка Купала*** (1882 -1942) ў Барысаве быў некалькі разоў у 1932 і 1934 гадах. Разам з другімі беларускімі пісьменнікамі выступаў перад чытачамі на прадпрыемствах, у піянерскіх лагерах, калгасах, навучальных установах. Пад час гэтых творчых камандзіровак напісаў нямала твораў, сярод якіх вызначаецца паэма "Барысаў". Урыўкі з яе Купала чытаў на адкрыцці помніка Леніну. У гонар паэта адна вуліца горада і СШ №1 носяць імя паэта. На будынку Дома культуры фабрыкі музычных інструментаў вісіць мемарыяльная дошка, якая сведчыць аб тым, што тут выступаў народны пясняр.

*

***Валерый Маракоў*** (1909 - 1937) - таленавіты лірычны паэт, як кажуць, паэт ад Бога. У літаратуру яго благаславіў сам Янка Купала. На Барысаўшчыне паэт быў першыя два месяцы 1935 года: быў у творчай камандзіроўцы на лесараспрацоўках і лесасплаве ў в. Чэрнеўка, спыняўся ў Барысаве. На жаль, жыццёвы і творчы шлях цудоўнага адароннага паэта быў абарваны 29 кастрычніка 1937 года (у адзін дзень са славутым зембінцам Ізі Харыкам).

*

***Янка Маўр*** *(1883 - 1971)*. Хто не ведае таленавітага пісьменніка, хто не чытаў яго захапляючых кніг для дзяцей? Праўда, нямногія ведаюць, што пасля заканчэння Панявежскай семінарыі, ён у 1903-1906 гадах настаўнічаў у вёсцы Бытча. Пасаду пакінуў не па ўласнаму жаданню. Яго звольнілі пасля ўдзелу ў нелегальным настаўніцкім з'ездзе ў Мікалаеўшчыне. Яго імя надана Бытчынскай школе, тут створаны літаратурны музей.

*

***Ігар Нікалаеў*** у Барысаве жыве пасля дэмабілізацыі, ён прафесіяналь ваенны. Прымаў удзел у Вялікай Айчыннай вайне. Піша на добра вядомую яму ваенную тэматыку. Выдаў кнігі "Дарагія мае сапёры", "Пах пораху", "Лінія фронту", "Брандэнбургскія вароты" і другія.

*

***Леанід Рашкоўскі*** (1937 -1994) нарадзіўся ў сям'і служачага, у час вайны жыў з сям'ёй на Урале. Закончыў СШ №2, працаваў рознарабочым на будоўлі. Вучыўся ў Віцебскім ветэрынарным інстытуце, але з-за хваробы не закончыў яго. Друкавацца стаў з 1955 года. Выдаў 8 кніг паэзіі (у тым ліку і для дзяцей). Героі яго кніг - моцныя духам людзі, якія свята вераць у чалавечы розум, горача любяць жыццё.

*

***Уладзімір Савіцкі*** (1914 - 1989) нарадзіўся на Магілёўшчыне ў сялянскай сям'і. Вучыўся і жыў у Расіі. З пачатку вайны - на фронце. У 1944-1957 гадах працуе ваенным журналістам. У Барысаве жыў з 1957 года. Літаратурнай творчасцю займаўся з 1946 года. У выдавецтвах Мінска і Масквы выдаў кнігі прозы "Людзі пяроднягa краю", "Ішлі салдаты", "Ноч перад парадам", "Улька", "І прыйдзе твой дзень", "Алёнушка з Доўгіх Ніў". Асноўная тэматыка яго твораў - вайна, подзвіг народа, жыццё вёскі, узаемаадносіны чалавека з прыродай.

***Янка Светлячок (Гаеўскі Іван Яфімавіч*** *1888 - 1957)* нарадзіўся ў беднай сялянскай сям'і, у якой гадавалася 12 дзяцей. Яму пашанцавала - ён стаў студэнтам Віленскага настаўніцкага інстытута. У Вільні знаёміцца з супрацоўнікамі і аўтарамі "Нашай нівы", сам з 1909 па 1915 год пастаянна пасылае ў газету розныя тэксты, вершы, запісы фальклору. Ёсць ускосныя звесткі, што наш зямляк быў знаёмы з Янкам Купалам. Пасля заканчэння інстытута працаваў на ніве народнай асветы на Лагойшчыне. Творчасць Я. Светлячка - яскравы прыклад так называемай "масавай" літаратуры. Памёр і пахаваны ў г.п. Плешчаніцы.

*

***Аляксандр Сакалаў*** (1910 - 1977) паходзіць з сялянскай сям'і. Вучыўся дома, а потым у Лошніцы. Вучобу прадоўжыў у Маскоўскім фінансава-эканамічным тэхнікуме і Іванаўскім педінстытуце. Працаваў у рэдакцыі газеты "Чырвоны шлях" (Смаленск). У час вайны знаходзіўся на фронце. Жыў у Маскве, але часта прыязджаў на радзіму. Лічыў за гонар друкавацца ў барысаўскай раённай газеце. Пісаў на рускай мове.

*

***Алесь Ставер*** (1929) вучыўся ў Барысаўскім педвучылішчы ў 1948-49 гадах. На сур'ёзнае стаўленне да літаратурнай творчасці маладога студэнта аказаў выкладчык беларускай мовы і літаратуры Замерфельд Я.М.. З цягам часу стаў вядомым паэтам, на вершы каторага напісана многа папулярных у народзе песень. У Барысаве часта выступаў перад рабочымі працоўных калектываў, навучэнцамі школ.

*

***Юры Станкевіч*** (1945) - карэнны барысаўчанін. Ён і цяпер жыве ў матчынай хаце больш, чым у мінскай кватэры, хаця асноўная яго праца цяпер у часопісе "Маладосць". А да гэтага была работа на фабрыцы піяніна, вучоба ў вячэрняй школе, на журфаку БДУ, работа ў мясцовай газеце, першыя спробы пяра. Сёння ён найбольш актыўна і плённа з беларускіх празаікаў ўздымае самыя балючыя праблемы нашага грамадства.

*

***Міхась Стрыгалёў*** (1938) у Барысаве жыве з 1987 года, а да гэтага была вучоба на роднай Гомельшчыне, у БПІ (г. Мінск), работа ў розных установах і прадпрыемствах Расіі. Да літаратурнай творчасці далучыўся ў студэнцкія гады. Выдаў зборнікі "Хмель", "Белая Русь", "Ростань", "Дзесяты кардон". Яго творчасць адрозніваюць глыбокім лірызмам, цеснай сувяззю з фальклорам. Стрыгалёў настойліва шукае свае шляхі ў паэзіі. А яшчэ ён выступае як крытык і перакладчык.

*

***Сяргей Фамін*** (1906 -1941) у вёску Ратуцічы прыехаў пасля заканчэння Магілёўскага педагагічнага тэхнікума. Працаваў настаўнікам у 1925-1926 г.г. Праявіў сябе дзейснай, актыўнай асобай. У ратуцкі перыяд многа пісаў: дзесяткі вершаў, паэмы "Перазовы восені", "Балота", сцэнарыі аматарскіх спектакляў. На жаль, быў беспадстаўна абвінавачаны ў варожай дзейнасці. У 1935 годзе арыштаваны, у 1941 годзе - расстраляны.

*

***Ізі Харык*** (1898 - 1937) нарадзіўся ў сям'і шаўца. Вучыўся ў хедары, у Зембінскай рускай народнай школе. Працаваў на прадпрыемствах Мінска, Барысава, Гомеля. Удзельнічаў у грамадзянскай вайне. Вучыўся ў Вышэйшым літаратурным інстытуце імя В.Брусава, Маскоўскім універсітэце. З 1927 года жыве і працуе ў Мінску. Вылучаецца сярод самых вядомых яўрэйскіх пісьменнікаў. Яго творы друкуюцца ў хрэстаматыях,іх вывучаюць у школах, перакладаюць на беларускую, рускую, літоўскую, украінскую, польскую мовы. У 1937 годзе быў рэпрэсіраваны і расстраляны.

*

***Рыгор Хацкевіч*** (1911 - 1979) нарадзіўся ў сялянскай сям'і. Вучыўся ў Барысаўскім педтэхнікуме. Настаўнічаў, працаваў журналістам. Быў беспадстаўна абвінавачаны. Да 1946 года адбываў пакаранне на поўначы. Пасля вайны зноў на Барысаўшчыне. У 1946- 1950 гадах выкладаў беларускую мову і літаратуру ў Негнавічах. У 50-х гадах жыў на Украіне. Пасля звароту зноў настаўнічаў. У апошнія гады жыў у пляменніцы ў Мінску і ў сястры ў в.Дакудава. Пісаў пра ўстанаўленне савецкай улады на Барысаўшчыне. Перакладаў з рускай і украінскай моў.

*

***Уладзімір Шахавец*** (1918 - 1991) паходзіць з сям'і сялян. У 1926-30 гадах вучыўся ў мясцовай першапачатковай школе, у 1930-33 гадах у Зембіне. Пасля заканчэння сямігодкі працаваў рахункаводам, сакратаром сельсавета. Потым вучыўся на рабфаку і БДУ. Настаўнічаў у в. Мсціж. Ваяваў у брыгадзе "Дзядзькі Колі", на Украінскім фронце. Многія гады працаваў на розных пасадах: рэдактарам у Дзяржаўным выдавецтве Беларусі, у выдавецтве "Беларусь" і "Мастацкая літаратура". Пісаў вершы і прозу, артыкулы, рэцэнзіі. Многа перакладаў.

*

***Язэп Шпэт*** (1891 - 1955) нарадзіўся ў сям'і арганіста. Першапачатковую адукацыю атрымаў у родным мястэчку, пазней у Вільні вучыўся на майстра па вытворчасці масла. Працаваў па набытай спецыяльнасці ў родных мясцінах. Займаўся зборам фальклору. Любіў маляваць, ткаць і вышываць, вельмі добра спяваў. Літаратурную творчасць пачаў у 1913 годзе. У "Нашай ніве" надрукаваў некалькі дзесяткаў апавяданняў, якія ў асноўным з'яўляюцца апісаннем тагачаснага жыцця простых людзей. У савецкі час пісаў пераважна публіцыстыку.

# Унікальная школа

(працяг, пачатак на стар.1)



Хор «Равеснікі»

Вядома, гордасцю школы з'яўляецца ўзорны акадэмічны хор "Равеснікі" (кіраўнік Юрчанка Л.Р.). Ён быў створаны 20 гадоў назад. Кіраваў хорам Шут А.А. Хор меў разнастайны цікавы рэпертуар, быў частым госцем г. Патсдама (Германія). У 1994 годзе пачаўся новы этап у жыцці калектыва. Хорам стала кіраваць Ларыса Юрчанка. Быў набраны новы састаў, і за кароткі час ў рэпертуары хора паявіліся апрацоўкі беларускіх народных песень, беларускія кантаты, творы замежных і рускіх кампазітараў-класікаў, сучасная і духоўная музыка. Хор вядзе вялікую канцэртную дзейнасць. З вялікім задавальненнем дзеці спяваюць у Барысаўскім касцёле. У 1998 годзе "Равеснікі" сталі дыпламантамі VI Міжнароднага фестывалю духоўнай музыкі "Магутны Божа". Сёлета хор стаў лаўрэатам II прэміі тэлевізійнага фестывалю народнай творчасці "Залатыя ключы". І, вядома, усім запомнілася паездка ў Віцебскую вобласць па лініі арганізацыі "Карытас" летам 1999 года, дзе дзеці не толькі адпачывалі, але і выступалі на многіх пляцоўках.

На музыкальным аддзяленні школы, акрамя акадэмічнага хора, ёсць аркестры духавых і народных інструментаў, ансамбль дабрыстаў і ансамбль народнай песні.

У горадзе і далёка за яго межамі ведаюць і любяць харэаграфічны ансамбль "Раўніца", які быў створаны ў 1986 годзе. Званне ўзорнага абараніў у 1989 годзе. Першая яго праграма мела назву "Бегаў Бай..." і складалася з беларускіх танцаў. З гэтай праграмай ансамбль быў адзначаны дыпломам III ступені і стаў лаўрэатам I Рэспубліканскага фестывалю беларускага танца. Гэтую праграму прадстаўлялі педагогі-харэографы Буйко Н.А. і Цюцюноў А.У. Затым былі праграмы "Падарожжа ў свет танца...", "На бале ў Папялушкі", "Мэры Попінс", "Добры дзень", у якіх паказалі свае работы харэографы Русакевіч Н.М., Коршунава В.В., Буйко Н.Л., Цюцюноў А.У., Шамардзін І.В., Нікіціна Н.У. У рэпертуары ансамбля пастаянна налічваецца не меней 25-30 пастановак, трэць з каторых складаюць беларускія танцы, а таксама дзіцячыя, эстрадныя, бальныя і класічныя. Выконваюць іх вучні харэаграфічнага аддзялення, а гэта болей за 100 чалавек. Ансамбль прымае ўдзел у школьных , гарадскіх, абласных канцэртах і дае іх за год не меней 30. Але самымі цікавымі для дзяцей, вядома, з'яўляюцца паездкі на самыя розныя конкурсы і фестывалі, сустрэчы са старымі сябрамі. А іх у танцораў з СШ №2 многа. Гэта і ансамбль "Чараўнікі" з Санкт-Пецярбурга, ансамбль з г. Петразаводска (Карэлія), ансамбль "Весялушкі" з Оршы, ансамбль "Юны масквіч" з г. Масквы.

Па многіх гарадах Беларусі і Расіі гастраліравалі дзеці. У маі гэтага года ўдзельнікі ансамбля пад кіраўніцтвам Русакевіч Н.М. пабывалі на юбілейным міжнародным конкурсе дзіцячай харэаграфіі "Вясновыя пярэваратні", які праходзіў у г.Пецергофе. Ні напружаныя дні, ні ўдзел у канцэртных праграмах не паўплывалі на глыбокія ўражанні, якія пакінуў фестываль і сам горад. Усім вельмі запомнілася паездка на фестываль "Анежскія світанкі" ў г.Петразаводск. Дарога была доўгай і цяжкай. Але сустрэча з сябрамі як рукой зняла стомленасць. Юным акцёрам пашанцавала, што фестываль супаў са святам горада. Удзельнікі ансамбля пабывалі на ўсіх асноўных пляцоўках горада, пазнаёміліся з народнымі інструментамі, танцамі Карэліі, сталі сведкамі прадстаўлення фінскага народнага тэатра. Пасля фестывалю пашанцавала палюбавацца Анежскім возерам, чароўнай прыродай Карэліі. А яшчэ была паездка ў г.Туапсе і вышэйшая ўзнагарода конкурса. Ансамбль стаў таксама лаўрэатам рэспубліканскага тэлевізійнага фестывалю народнай творчасці "Залатыя ключы", Міжнароднага конкурса харэаграфічнага мастацтва "Сожскі карагод" у г.Гомелі.

Але, бадай, самай незабыўнай паездкай была паездка ў г.Маскву на тэлевізійны конкурс "Ранішняя зорка". Юныя барысаўчане не толькі ўдзельнічалі ў ім, ім прадставілася магчымасць выступаць на адной сцэне з В.Лявонцевым, І.Алегравай, І.Кабзонам і многімі другімі зоркамі расійскай эстрады, сустрэцца і сфатаграфавацца з народным артыстам СССР В.Зельдзіным і другімі.

Самае маладое ў школе - тэатральнае аддзяленне, на базе каторага ў 1994 годзе створаны вучэбны тэатр "Скарбонка". Ён мае сваю прадгісторыю. У 1986 годзе ў школе быў створаны



Ансамбль «Раўніца»

гурток, якім кіраваў Буйко У.А. Да адкрыцця аддзялення былі пастаўлены спектаклі "Паталогія ядзернага Марса" (Н.Пружанаў), "Кот у ботах" (Ш.Перо). Зараз тэатр узяў за аснову музычны накірунак і за мінулы час падрыхтаваў спектаклі "Кветкі пад ліўнем" (І.Сідарук), "Муха-цакатуха" (К.Чакоўскі), "Гародніная фантазія" (Г.Сакалоў) і другія.

Кожны год тэатр прадстаўляе школу на гарадскім фестывалі "Тэатральны марафон" і на працягу апошніх 3 гадоў яго пастаноўкі аб'яўляюцца лепшымі, а акцёры неаднаразова атрымлівалі прызы за лепшыя мужчынскія і жаночыя ролі. У 1996 годзе тэатр прыняў удзел у абласным аглядзе-конкурсе тэатральных калектываў, які праходзіў у Барысаве і атрымаў дыплом 1-ай ступені, а ў 1999годзе на абласным фестывалі спектакль "Зачараваная хатка" быў аб'яўлены лепшым. Вядома ж, усе гэтыя поспехі - заслуга кіраўніка тэатра Буйко У.А.

Яшчэ многа цікавага можна было б расказаць пра работу і поспехі вучняў і педагогаў школы мастацтваў, але напаследак толькі зазначым, што асноўнай задачай педагогаў з'яўляецца развіццё закладзеных у кожным дзіцяці здольнасцей да творчасці.

*А.Кучарэнка*





# Самы вялікі камень на Беларусі

*З гэтага нумара нашай газеты пачынаецца цыкл матэрыялаў, які прысвечаны найбольш адметным прыродным і рукатворным аб'ектам на Беларусі. Як заўсёды мы будзем не толькі інфармаваць чытачоў аб іх, але і прапаноўваць найбольш аптымальныя маршруты для іх агляду.*

Сёння мы распавядзем пра самы вялікі камень на Беларусі - так званы "Вялікі камень".

Знаходзіцца ён каля вёскі Горкі Шумілінскага раёна Віцебскай вобласці. Мае даўжыню 11 метраў, шырыню 9 метраў і вышыню 6,4 метра. Вага валуна - больш за 800 тон. "Вялікі камень" уваходзіць у трэцюю дзесятку самых вялікіх камянёў Еўропы.

Агляд каменя - волата, калі вы гэта робіце на ровары, мэтазгодна здзяйсняць па маршруту Віцебск - "Вялікі камень" - Ушацкія азёры (заказнік "Крывое возера", паганскія капішчы ля азёр Цётча, Янава) - Полацак. Працягласць такой велавандроўкі можа складаць 3 - 4 дні. Каб адшукаць "Вялікі камень" неабходна ў вёсцы Горкі пры рушанні па накірунку ад Шуміліна на Чашнікі павярнуць на невялікую дарогу, якая вядзе на ворнае поле, направа. Калі прайсці праз поле, перабрацца праз канаву, то ў 400 метрах ад шасэ вы выйдзеце на валун - волат.

*А.Гурскі*

ТУМАН БАРЫСАЎШЧЫНЫ

# “Ціхае” паляванне

Нямногія нашы грамадзяне могуць пахваліцца, што прымалі ўдзел у сапраўдным паляванні. Ды і зразумела, чалавек настолькі моцна ўзяў прыроду ў свае абдымкі, што сёння не толькі ласся, дзіка цяжка ўбачыць, але звычайнага зайца. Да таго ж у многіх з нас з'явілася разуменне, што страляць і забіваць гэта не вельмі добра.

Але ёсць “ціхае” паляванне, якое падыходзіць усім. Яно падуладна старым і маладым. Яно захапляе, прыносіць карысць і спажытак. Гэта добры адпачынак і крыніца здароўя. І, як ты ўжо зразумеў, чытач, паляванне гэта не што іншае, як збор грыбоў.

Наша слаўная Барысаўшчына багата лясамі. Тут ёсць дзе разгуляцца грыбніку. І сапраўдны аматар добра ведае, дзе растуць якія грыбы.



Ледзь толькі золак праяснее на ўсходзе, а ў лесе ўжо чуваць галасы. Звычайна ўсе любяць “сапраўдныя” грыбы: баравікі, падасінавікі, падбярозавікі, лісічкі, апенькі. Але бывае год неспрыяльны для гэтых грыбоў. Тады можна пашукаць іншых. Добрая гаспадыня зможа прыгатаваць нават чорныя грузды так, што пальчыкі абліжаш.

Дарэчы, хто сказаў, што ёсць лепшыя і горшыя грыбы?! На маю думку, такія грыбы, як масълякі, рыжыкі, белыя грузды, таксама не ўступяць першынства. А ёсць і зусім практычныя людзі. Яны ўмеюць скарыстаць нават тыя грыбы, якія ў народзе завуць капелюхамі або парасонамі. Такія не прапусцяць шампіньён ці нават звычайны дажджавік.

Ціха ў лесе. Вось-вось золак кране чырванню верхавіны дрэў, і тады лес ажыве, напоўніцца галасамі грыбнікоў, іх радаснымі воклічамі. А на вакзале, аўтобусных прыпынках мы зноў убачым гараджан з кошыкамі цудоўнага дару прыроды - грыбоў.

Не спі ў шапку, суседзе, і радасць ад прагулкі ў лесе, ад лясных дарункаў не праміне цябе! “Ціхага” табе палявання!

*М.Пучыла*

# Прыродная лякарня

У нашых лясах расце мноства розных грыбоў. Дажджлівае лета ў гэтым годзе спрыяе іх росту. Аматары “ціхага палявання” па лесе ў пошуках баравікоў, лісічак... Чым жа тлумачыцца нязменная сімпатыя, якой многа вякоў карыстаюцца лясныя грыбы?

Грыбы маюць складаны хімічны склад. У іх шмат вады і шырокі набор арганічных і мінеральных рэчываў. Большую частку сухога рэчыва грыбоў складаюць бялкі і азоцістыя спалучэнні, у тым ліку грыбная клятчатка. Асноўная частка гэтага бялка, фунгін, - рэчыва, ідэнтычнае хіціну, з якога, напрыклад, складаюцца крылы жукоў. Таму грыбная клятчатка ўсвайваецца з цяжкасцю і харчовая каштоўнасць некалькі паніжаецца. Вугляводаў у грыбах прыкладна ў два разы больш, чым бялкоў. Яны багаты вітамінамі A, B, B1, B2, C, D, PP. Вітаміну А асабліва многа ў лісічках і рыжыках. Па ўтрыманню вітаміну B1 многія грыбы не саступаюць зернавым прадуктам, а апёнак летні і лісічкі маюць шмат тыаміну. Вітаміну PP - столькі, колькі яго ў дрожджах і печані, такім чынам іх можна выкарыстоўваць як актыўны сродак супраць такога захворвання, як пелагра, якая ўзнікае пры недахопе гэтых вітамінаў.

У грыбах прысутнічаюць антыбіётыкі. Грыбы выпрацоўваюць шмат ферментаў, якія застаюцца актыўнымі нават пасля высушвання і садзейнічаюць засвойванню ежы, так як валодаюць сокагонным дзеяннем. У французскай кухні, напрыклад, да высокакаларыйных страваў у якасці прыправы заўсёды падаецца лыжка-другая грыбоў. З некаторых грыбоў выпрацоўваюцца ферментныя прэпарат, які выкарыстоўваецца ў вырабле сыру.

Па наяўнасці мінеральных рэчываў грыбы набліжаюцца да фруктаў. У іх прысутнічаюць солі калію, фосфару - іх амаль столькі, колькі ў рыбе, а таксама солі кальцыю, натрыю, жалеза. У грыбах маецца цынк, медзь, фтор і іншыя мікраэлементы.

Усе гэтыя звесткі падштурхнулі фармаколагаў і медыкаў звярнуць увагу на грыбы. Да гэтага часу іх вывучана больш за 3000 і выдзелена больш за 40 біялагічна актыўных рэчываў. У прыгатаванні лекаў часцей за ўсё выкарыстоўваюць шампіньён, гаварушку, свінушку, рыжык, белы грыб, чырвоны мухамор, лісічку, грузды. А самы вядомы і больш за ўсіх вывучаны - грыб чага, які паспяхова прымяняецца пры лячэнні язвенай хваробы.

Аднак грыбы акрамя карысці могуць нанесці шкоду. Гэта можа адбыцца ў выпадку, калі грыбнік недастаткова добра іх ведае або грыбы былі з'едзены ў вялікай колькасці. Таму засвойце правіла: ніколі не збірайце невядомыя грыбы і майце ва ўсім меру.

*І.Магуш*

# Парады ад Наталлі

*Паважаныя гаспадарыні! Лета ў гэтым годзе выдалася не вельмі багатым на сонечныя дні, але гэта паспрыяла таму, што ў лясах вельмі многа грыбоў. І калі вы не палянуецеся і сходзіце ў лес, то з пустым кошыкам не вернецеся. Таму прапаную вам некалькі цудоўных рэцэптаў прыгатавання грыбоў.*

**Салат з сыраежак**

Маладзенькія сыраежкі пракіпяціце ў салёнай вадзе, працадзіце праз сіта, астудзіце. Дабаўце цыбулю (можна зялёную), алей. Падаваць з гарачай бульбай.

**Салат з баравікоў**

Звараныя грыбы парэжце долькамі, пасыпце чырвоным і чорным перцам, пасаліце і папырскайце воцатам. На вяршыню салатнай горкі для прыгажосці і смаку можна пакласці галінку брусніцы.

**Заліўное з баравікоў**

У літры салёнай вады адварыце, а потым мелка пакрышыце баравік. Прыгатуйце жэлацін (на шклянку халоднай гатаванай вады - 2 сталовыя лыжкі), пачакайце гадзінку, каб набух, і выліце ў грыбны булён. Падагрэйце на малым агні, каб жэлацін цалкам раставарыўся, але не кіпяціце. Заліце грыбы і пастаўце ў халадзільнік.

Падрыхтуйце соус: разатрыце да бяла жаўток, сталовую лыжку гарчыцы, 2 лыжкі алею, соль, цукар, воцат па смаку. Да заліўнога падайце гарачую маладую бульбу, агуркі і памідоры.

**Грыбны расольнік**

Пакладзіце на патэльню кавалачак масла і цыбуліну. Калі цыбуліна падсмажыцца, насыпце мелка парэзаныя баравікі, злёгку падсмажце. Усё гэта пакладзіце ў каструлю з вадою, зварыце. Потым дабаўце рассыпчатую пярловую кашу, нарэзаныя елачкай салёныя агуркі, розныя карэнні, размяшайце і дайце добра пакіпець.

**Рагу з лісічак і сыраежак**

Падсмажце ў масле нарэзаныя грыбы, нарэзаныя кубікамі моркву і рэпу, нашынкаваную цыбулю - усё паасобку. Пасля складзіце ў каструлю разам з тонкімі кольцамі сырой бульбы. Заліце кіпенем, таматным пюрэ і тушыце да гатоўнасці. Пасыпце ўкропам, дабаўце смятаны і яшчэ раз добра пракіпяціце.

# Верасень

*Умоўна лічыцца, што восень наступае ад пачатку верасня. Усё мацней бяруцца халады, звычнымі робяцца туманы, ападаюць лісты з дрэў, чырванеюць рабіны.*

**1/19.** Андрэй, Піцірым, Агата, Тэкля.
**2/20.** Самуіл, Сявір.
**3/21.** Фадзей, Васа, Аўрам.
**4/22.** Апанас, Анфіса.
**5/23.** Дзень пакутніка Лупы. Гаварылі, што ў дзень памяці святога Лупы нельга сеяць жыта, таму што на ўсёй ніве будуць “лупы” - жыта ўзыдзе і вырасце плешынамі.
**6/24.** Яўціхій, Іван, Пятро, Арсень, Георгій.
7/25. Варфаламей, Ціт, Міна, Яўлогій. У гэты дзень прадугледжваўся адлёт буслоў у вырай, іх зварот праз дзевяць месяцаў падмацоўваў тлумачэнне, што дзяцей прыносяць менавіта гэтыя птушкі: “Святы Варфаламей высылае буслоў на дзяцей”. Па стану надвор'я на Варфаламея вызначалі характар усёй восені.
**8/26.** Адрыян, Наталля.
**9/27.** Пімен, Анфіса, Сава.
**10/28.** Майсей шанаваўся як збавіцель ад п'янства, асабліва запойнага. Таму жанчыны, што пакутвалі ад мужоў-п'яніц, звярталіся менавіта да Майсея па дапамогу.
**11/29.** Дзень адсячэння галавы Іаана Прадцечы меў у народзе назвы: Іван Галавасек (Галавэрэз, Сценцель), або Іван Калінавік (Каліннік). Адзначаўся праваслаўнай царквою строгім постам. У гэты дзень нельга было есці круглых пладоў, каб не спадобіцца Ірадыядзе, якая забаўлялася галавою Іаана Хрысціцеля як яблыкам, і каб не садзілася ў бліжэйшы год на цяле скуллё. Баяліся варыць чырвонае бацвінне, бо, лічылі, у доме на працягу года пральецца чыя-небудзь кроў. Забаранялася рэзаць нажамі і сячы сякерамі ўсё, што мела круглыя абрысы, нават хлеб кроілі загадзя ці ламалі яго рукамі. Пад пагрозаю пажару рупліся выпаліць напярэдадні ў печы і ўсяляк пазбягалі звозіць сена ў хлявы. Ужо сама назва свята падказвала паклапаціцца і пра ўласную галаву. А каб яна не балела, ламалі на Галавасека каліну, што якраз паспявала, і варылі з яе кісель ці кашу з аржаной мукой і цукрам.
**12/30.** Аляксандр, Іван, Павел, Даніла.
**13/31.** Кіпрыян, Генадзь.
**14/1.** Сямён, Марфа. Дзень Сямёна Стоўпніка меркаваўся як апошні дзень сяўбы азімых. Паводле народнага павер'я, жыта пасеянае ў гэты дзень, не будзе баяцца павалу, будзе трымацца “станьком”, высокае, але неўмалотнае. А каб засцерагчыся неўмалоту, няпоўных каласоў, забаранялі на Сымона малаціць. Адлялі птушкі ў вырай.
Другая палова верасня і пачатак кастрычніка ў народным календары звязвалі з пацяпленнем і насілі назву “бабінага лета”. Яна пахадзіць нібыта ад таго, што на гэты час прыпадала пераважна “бабская” работа на агародзе і ў полі. Лагоднае надвор'е спрыяла ўборцы гародніны, капанню бульбы. У гэты час цёрлі і трапалі лён і каноплі.
**15/2.** Хвядот, Руфіна, Іван, Антон, Хвядос.
**16/3.** Феафіл, Дарафей, Пятро, Зянон, Домна, Яўхім, Феакціст, Іван, Васіліса.
**17/4.** Вавіла, Майсей, Піліп, Хведар, Юльян.
**18/5.** Захар, Лізавета, Апанас, Глеб, Давыд, Максім, Хведар, Аўдзей, Раіса.
**19/6.** Дзень успаміну цуда Архістрацііга Міхаіла па-народнаму называўся проста “Цуда”. Гэта не было свята, і лічылі, калі хто сее жыта ды не ведае, што за дзень, то ўродзіць цудоўная збажына, а калі хто ўзведае ці згадае, але не спыніць работу, - з ураджаю атрымаецца “цуда” наадварот.
**20/7.** Сазонт, Іван, Макар, Серапіён, Лука.
**21/8.** Свята Ражства Маці Божай, Малая (Другая) Прачыстая, Другі сваток. Пачынаўся адлік дням чарговай пары года: “Другі сваток - восень, браток”. Была і свая назва ў гэтага свята, што з найбольшай яскравасцю сведчыла пра канчатковы набытак селяніна з яго нівы - “Багач”. Назіралі за жывёлай, каб рабіць прагнозы аб наступленні зімы: калі пасля Малой Прачыстай жывёла імкнецца на пашу вельмі рана, то і зіма будзе ранняя.
**22/9.** Якім, Ганна, Язэп, Хвядос, Феафан, Харытон, Мікіта.
**23/10.** Павел, Андрэй, Клімент, Пульхерыя, Пятро.
**24/11.** Хвядора, Сяргей, Герман, Дзмітрый, Ян.
**25/12.** Сямён, Юльян, Хведар.
**26/13.** Лявонцій, Юльян, Лук'ян, Валер'ян, Пятро.
**27/14.** Узвіжанне (Здвіжанне) - так у народзе называлася царкоўнае свята, звязанае з ушанаваннем крыжа, які ўздымаўся над натоўпам вернікаў. “На Узвіжанне сонца калі ўсходзіць - гуляе, прыгае, дзвіжацца”. “На Узвіжанне халат з плеч, а кажух на плечы”. Гэта апошняе свята, калі канчаткова развітваюцца з летам. Апрача адлёту птушак, вельмі значнай з'явай быў для народнага ўяўлення яшчэ адзін рух у прыродзе - выпаўзалі змеі і збіраліся разам, каб адысці ў зімовы сон да вясны: “Ва Узвіжання пару гадзюкі і вужакі хаваюцца ў нару”. Першыя вясновыя і апошнія восеньскія змяіныя ўкусы лічыліся самымі небяспечнымі, таму на Узвіжанне пабойваліся хадзіць у лес. З гэтага дня пачынаўся агульны збор журавін.
**28/15.** Мікіта, Акакій, Максім, Хвядот, Парфірый, Сцяпан, Язэп.
**29/16.** Віктар, Дарафей, Людміла, Язэп, Ісак. У каталіцкім календары гэта дзень Міхаіла, які прадказваў надвор'е: “Калі на Міхаіла з поўначы вее, то не мей на пагоду надзеі”. Ясная ноч абяцала трывалую зіму.
**30/17.** Вера, Надзея, Любоў, Соф'я.
Калі на працягу верасня ліст на дрэвах трымаецца моцна - зіма няскора прыйдзе.

*Падрыхтавала І.Граковіч*

# Крыжаванка

*складзена па матэрыялах гэтага нумара*

**Па гарызанталі:** 1 - маёнтак на Барысаўшчыне; 2 - вёска на Барысаўшчыне; 3 - паэт, які пэўны час жыў на Барысаўшчыне; 4 - прозвішча тутэйшага паэта, які вядомы пад псеўданімам Светлячок; 5 - паэт, які пэўны час жыў на Барысаўшчыне; 6 - вёска на Барысаўшчыне; 7 - псеўданім вядомага паэта, у якога шмат што звязана з Барысаўшчынай; 8 - тутэйшая паэтка; 9 - вёска на Барысаўшчыне; 10 - частка Барысава; 11 - вёска на Барысаўшчыне; 12 - частка Барысава.




**Адказы на крыжаванку**, што змешчана ў "ГБ" № 7(16): 1 - Гара; 2 - Хадасевіч; 3 - Асалода; 4 - Карсакавічы; 5 - Зембін; 6 - Харык; 7 - Спатканне; 8 - Лаўнічанка; 9 - Будаўнікоў; 10 - Шпэт; 11 - Храптовіч; 12 - Радзівілы; 13 - Лошніца.




Мал. Л.Гадуна

# Ці ведаеце вы, што...

*Назвы вуліц нашага горада не заўсёды былі такімі, якімі мы бачым іх сёння. Вось немцам, напрыклад, яны вельмі не спадабаліся, калі яны ў час вайны прыйшлі заваёўваць нашу краіну. Наступныя вуліцы атрымалі больш "нейтральныя" назвы:*

Каляровая - Стракатая;
Землеўладальніцкая - Рыбацкая;
Лейтэнанцкая (зараз Паўла Рака) - Бліскучая;
Парашутыстаў - Дрывяная;
Новая - Салдацкая;
Працоўны Хімік - Крывая;
Лермантава - Руская;
Чэхава - Вольная;
Гоголя - Зялёная;
Пушкіна - Літаратурная;
К.Маркса - Ціхая;
Ленінская - Мірная;
Р.Люксембург - Бальнічная;
Фабрыцыуса - Крайняя;
Арджанікідзе - Шырокая;
ІІІ Інтэрнацыянала - Мінская;
К.Лібкнехт - Каніфольная.

*Але распачалі гэтую справу яшчэ камуністы, адразу пасля рэвалюцыі. Тады перацярпелі наступныя вуліцы:*

Андрэеўская - Нармандыя-Нёман;
3-я Батарэйная - Батурына;
Школьная - Адамовіча;
Лясная - Дзёміна;
Новаінкубатарная - Шчорса;
Загародная - Р.Ібаруры;
Гуменная - С.Супруна;
Гешвінская - Чарняхоўскага;
пр.Трубяцкога - пр.Рэвалюцыі;
Мінскі тракт - ІІІ Інтэрнацыянала;
Маскоўскі тракт - 1Маскоўскай дывізіі;
Маскоўская - Дзяржынскага;
Свабоды - Лапаціна;
Аляксееўская - Урыцкага;
Крывая - Горкага;
Фельдфебельская - Пралетарская;
Нікалаеўская - Савецкая;
Усясвяцкая - Чырванасцяжная;
Аляксандраўская - Энгельса;
Багданаўская - 1 Мая;
Вакзальны праспект - Працы;
Паўлаўская - Ленінградская.

*Ёсць нават ветэраны ў гэтай справе. Гэта вуліцы Бабруйская і Лашчэўская, якія мянялі свае назвы па некалькі разоў:*

Бабруйская - Зіноўева - Хітрыкаўская - Чапаева;
Лашчэўская - Калгасная - Дваровая - Калгасная - Хацкевіча.

***По матэрыялах працы вучаніц СШ N17 Г.Ровінай, М.Свідэрскай і Н.Удавічэнка пад кіраўніцтвам настаўніцы геаграфіі Г.С.Сыраежкінай.***

# Лічбавыя крыжаванкі

Ніжэй прыведзены пералікі лічбаў, якія згрупіраваны па іх колькасці. Вам неабходна падабраць і запісаць у незафарбаваныя радкі і слупкі лічбы такім чынам, каб супалі іх усе перасячэнні.

**7**: 1283574, 1344976, 1487284, 1547896, 2455895, 4128191, 4158761, 4187964, 4247856, 4257434, 4435961, 4442596, 4464686, 4485261, 4526989, 4892254, 5387936, 6142724, 6151674, 6478196.

**5**: 21445, 24851, 25761, 51256, 52315, 76948, 85526, 89234.

**3**: 254, 423, 424, 426, 705, 786, 814, 922, 937, 942, 943.




***Адказ на крыжаванку, надрукаваную ў мінулым нумары:***

| | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 3 | 5 | 6 | 7 | 9 | | | 3 | | 2 | 4 | 4 | 4 | 5 |
| 2 | | 3 | | 9 | | 1 | | 4 | | 5 | | 2 | | 6 |
| 8 | 3 | 0 | 4 | 7 | 5 | 1 | 8 | 5 | | 3 | 2 | 2 | 6 | 5 |
| 4 | | 7 | | 1 | | 4 | | 2 | | 2 | | 1 | | 2 |
| 7 | 3 | 5 | 5 | 6 | 7 | 5 | | 5 | 3 | 3 | 6 | 3 | 8 | 5 |
| | | | | 2 | | | | 4 | | 7 | | 0 | | 5 |
| 3 | 4 | 5 | 8 | 3 | 0 | 7 | 5 | 7 | | 9 | 1 | 5 | 7 | 7 |
| | | 2 | | | | 1 | | 2 | | | | 9 | | |
| 2 | 4 | 7 | 9 | 3 | | 3 | 3 | 0 | 4 | 7 | 2 | 5 | 8 | 7 |
| 2 | | 6 | | 2 | | 7 | | | | 3 | | | | |
| 3 | 3 | 5 | 1 | 3 | 7 | 7 | | 5 | 2 | 5 | 5 | 7 | 7 | 7 |
| 5 | | 7 | | 4 | | 2 | | 2 | | 8 | | 1 | | 7 |
| 1 | 3 | 8 | 3 | 4 | | 8 | 5 | 0 | 3 | 8 | 6 | 0 | 7 | 7 |
| 5 | | 5 | | 8 | | 3 | | 4 | | 9 | | 1 | | 3 |
| 3 | 5 | 8 | 4 | 7 | | 0 | | | 1 | 3 | 5 | 0 | 4 | 1 |

# Японскія крыжаванкі

Зноўткі вашай увазе прапануецца так званая японская крыжаванка. У ёй неабходна адгадаць не словы ці размяшчэнне лічбаў, а выяву. Яна атрымліваецца на падставе аналізу лічбаў, што прастаўлены злева ад радкоў і над слупкамі. Лічбы паказваюць, колькі груп чорных клетак знаходзяцца ў адпаведным радку або слупку і колькі суседніх чорных клетак утрымлівае кожная група. Напрыклад, лічбы 1, 4 і 2 азначаюць, што ў гэтым радку ёсць тры групы чорных клетак, якія складаюцца: першая - з адной, другая - з чатырох, трэцяя з двух чорных клетак. Групы падзелены паміж сабою не менш чым адной пустой клеткай. Пустыя клеткі могуць быць і па краях поля.

Паспрабуйце высветліць якая выява зашыфравана ў наступнай крыжаванцы. Трэба толькі папярэдзіць нашых чытачоў - тыя зафарбаваныя клеткі, якія вы бачыце на новай крыжаванцы не ўходзяць у лік лічбаў, што стаяць у слупках.➤




***Адказ на крыжаванку надрукаваную ў прошлым нумары:***





ГОМАН БАРЫСАЎШЧЫНЫ
Рэгістрацыйны нумар 595
Заснавальнікі: І.Белы, У.Буйко, У.Дубаневіч, М.Мацельскі, М.Пучыла.
Нам. рэдактара Л.Гадун
Кампутарны дызайн І.Гадун
Юрыдычны адрас рэдакцыі: г. Барысаў, 1-ы зав. К.Лібкнехта, 1
Наклад 2000 паасобнікаў
Падпісана ў друк 15.00 29.08.2000 г.
Замова №4952
Друкарня імя 1-га Мая
г. Барысаў, вул. Будаўнікоў, 33

*Адрас для пісьмаў: 222120, Барысаў-1, а/с 43*